Кошт паштовай перасылкі аплачана агулам.

Цана асобнага нумару 1500 м. п.

# НАШ СЬЦЯГ

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

**Выходзіць тры разы у тыдзень.**
Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **18.000** м. п.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукаванага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 3500 мк., сярод тэксту 3000 м. і на 4 стр. 2500 м., за радок пэтыту у 1 шпальт.

№ 18 Нядзеля, 29-га ліпня 1923 г. Год I.



## P. P. S. і работніцкая кляса.

Адказваючы на інтэрпэляцыю P.P.S. ў справе самачынства паліцыі ў часе апошніх забастовак, міністар унутраніх спраў Кернік паміж іншым кінуў гэткія фразы: „*Профэсыянальныя саюзы утрацілі даверые масаў*.... Камуністы сіліліся прыдаць забастоўцы палітычны характар, згодна з сваімі ідэямі... Паўсталі фабрычныя камітэты, якія сіліліся ўзяць у свае рукі кіраўніцтва забастоўкай“... Гэтыя словы выклікалі цэлую буру на лавах пэ-пэ-эсаў, распачалася фармальная абструкцыя і маршалак прымушаны быў перарваць паседжаньне.

Тое-ж самае гаварылі раней і афіцыяльныя паведамленьні Pat‘a, згодна якіх ужо ў самым пачатку забастоўкі, кіраўніцтва высклізнула з рук профсаюзаў, а ўплывы камуністаў сярод забаставаўшых работнікаў шмат пашырыліся.

Орган P.P.S. „Robotnik“, таксама як і паслы P.P.S. ў Сойме, асабліва пратэстуе проціў гэтых заяваў міністра і сіліцца даказаць, што P.P.S., як і раней, выключна карыстаецца ўплывамі на работніцкую клясу, сярод якой толькі яе сябры маюць послух. Але той нэрвовы тон, якім стараюцца яны заверыць усіх у моцнасьці сваіх пазыцый здраджае іншае. Ды і факты гавораць не на карысьць P.P.S.

P.P.S. апанавалі ўсе ўрады профэсыянальных саюзаў і той факт, што „профсаюзы утрацілі даверые мас“, раўназначны з тым, што і P.P.S. утраціла гэтае даверые. Аб гэтым сьведчыць і той факт, што забастоўка мэталістаў у Варшаве паўстала проста супраць волі Цэнтр. Ураду профсаюзаў, які адкладаў забастоўку на неазначаны час...

Усё гэта—зьявішчы, дужа непрыемныя для Польскай Соцыялістычнай Партыі, але гэта так. Трэба сьцьвердзіць, што ўплывы P.P.S. на работніцкія масы ў Польшчы ўсё больш зьмяншаюцца і ўзрастаюць уплывы партыі стаячай больш налева, партыі, якая не прызнае кампрамісаў, партыі—камуністычнай. Ужо выбары ў Сойм паказалі, што камуністы маюць шмат прыхільнікаў у прамысловых цэнтрах Польшчы. Выбары ў гарадзкую раду ў Лодзі выявілі поўную няўдачу P.P.S. З прычыны таго, што камуністычны сьпісак быў уневажнены, мы ня можам цыфрамі давясьці ўзрост камуністычных сіл, але выпадкі апошніх дзён сьведчаць аб умацаваньні іхных пазыцый сярод работнікаў.

Якая-ж прычына таго, што P.P.S. траціць уплывы на работніцкую клясу?

З прычыны выступленьня ў Сойме хадэцкага пасла Гдыка ў абароне прамысloўцаў і паліцыі „Robotnik“ піша:

„*Работнікі павінны добра памятаць гэтае падслугоўваньне капіталістычнага і паліцэйскага лёкая!*“

Хай P.P.S. крытычным вокам акіне сваю палітыку за апошнія гады і задумаецца над гэтымі славамі, слушна кінутымі па адрасу хадэкаў... і ці ня могуць гэтыя словы ў пэўнай меры быць застасаванымі да яе самой...

*Угадоуства* P. P. S. зьяўляецца тэй прычынай, якая заставіла работніцкія масы адыйсьці ад яе і даць моцнае аружжа ў рукі яе канкурэнтаў. Падтрымоўваньне P.P.S. мяшчанскіх урадаў ад часу істнаваньня Польскай Дзяржавы і асабліва ўраду Сікорскага, палітыка якіх нічым не паляпшала становішча працоўных масаў, а скарэй наадварот, усё болей і болей адсоўвала на задні плян зьдзейсьненьне іх інтарэсаў, учасьце ў авантурыстычных прадпрыемствах Пілсудскага, — здыскрэдытавала P.P.S. у вачох працоўных масаў. Ці-ж ня яркім прыкладам гэтага ігнараваньня інтарэсаў работніцкай клясы зьяўляецца той факт, што устава аб падатку з даходаў, якая ўскладае на работнікаў новы цяжар—плаціць налог з іх у чатыры разы меншай, чым перад вайной заработнай платы, прынята ў гэткай форме, дзякуючы толькі таму, што паслы з P.P.S. не зьявіліся на гэтае паседжаньне Сойму?

Няўжо-ж той факт, што сябры P.P.S. перапаўнялі ўсе дэфэнзывы і II аддзелы, мог падняць партыю ў вачох работніцкай масы?..

Такіх фактаў надта шмат, каб можна было ўсе іх прывесьці ў кароткай газэтнай стацьці. Але і з прыведзенага відаць, што калі P.P.S. траціць свае ўплывы, дык гэта ёсьць лёгічным вынікам яе тактыкі, яе ігнараваньня работніцкіх інтарэсаў, компромітацыя партыі ў цэлым, дзякуючы яе палітыцы, нічым бадай ня розьніўшайся ад палітыкі дробна- мяшчанскіх партый.

Грунт высоўваецца з-пад ног P.P.S., лідэры яе ў засьляпленьні ня хочуць прызнаць гэтага, усё яшчэ маюць прэтэнзыю на манаполь перадстаўляць інтарэсы працоўных, але ход падзей ясна паказвае, што ў сучасны мамэнт, у мамэнт узмагаючайся клясавай барацьбы, партыя P.P.S. выявіўшая сваю няздольнасьць у кіраўніцтве работніцкім рухам, мусіць застацца ў старане і уступіць месца іншым кіраўнікам і ідэолёгам...

**Яз.**

***Вызваленьне рабочых—ёсьць справа самых рабочых.***

## Трэція угодкі па сьмерці Алеся Гаруна.

28-га ліпня г. г. спаўняецца тры гады з дня сьмерці Алеся Гаруна.

Тры гады праляцелі, і што-ж за гэты час зроблена беларускім грамадзянствам дзеля ўшанаваньня памяці поэта?

Можа паасобныя людзі што й рабілі, але прагледзіўшы беларускую работу за гэтыя тры гады па беларускай прэсе, можна сказаць, што беларускім грамадзянствам ў гэтай справе блізу нічога ня зроблена.

Перш-наперш дагэтуль няма поўнага збору твораў нябожчыка.

Людзі, блізка знаўшыя Алеся Гаруна, не напісалі аб ім сваіх успамінаў

Людзі, якія дакладна ведаюць яго жыцьцё, маюць на руках яго пісьмы, фотографічныя картачкі, а галоўнае—рукапісы і нядрукаваныя дагэтуль творы, так сама ні словам не падзяліліся з сваім грамадзянствам праз прэсу.

Біографія поэта, зьмешчаная ў „Гісторыі беларускае літэратуры“ Максіма Гарэцкага, хоць і папісана, як мы даведаліся ад М. Гарэцкага, са слоў самаго Алеся Гаруна, але яна даведзена толькі больш-менш да часаў вайны і рэвалюцыі і зьмяшчае ў сабе толькі важнейшыя вонкавыя падзеі з яго жыцьця і не дае суцэльнага вобразу.

Вось-жа беларусы, знаўшыя Алеся Гаруна ў апошнія гады, ведаючыя перадсьмертныя мінюты яго і месца, дзе знаходзіцца яго магіла (у Кракаве?) — павінны зараз, не адкладаючы і не разьлічаючы на сваю памяць, запісаць усё і падаць у друк.

Абавязак Язэпа Лёсіка і другіх зсыльных беларусаў, жыўшых разам з Алесям Гаруном у Сыбіры, — напісаць аб яго жыцьці з таго часу.

Абавязак адпаведных беларускіх арганізацый — паклапаціцца, каб кніга памершага поэта „Матчын дар“, якая ў віленскай продажы даўно ўжо вычарпана, была-бы прывезена сюды ў пэўным ліку экзэмпляраў з Менску, калі яшчэ ёсьць там, ці была-бы выдадзена друкам яшчэ раз.

Так сама патрэбна і пільна патрэбна, каб апавяданьні яго, хоць-бы самыя важнейшыя, былі выбраны з гадавых комплектаў розных часопісяў і надрукаваны кніжкаю—хоць самай маленькай да часу выданьня поўнага збору яго твораў.

З свайго боку, у дадатак да матар‘ялаў аб Алесю Гаруну, зьмешчаных у „Гістор. бел. літ.“ М. Гарэцкага, падаём тут некалькі маленькіх фактаў, добра нам вядомых.

Вось-жа ўвесь уклад жыцьця ў сям‘і Прушынскіх (запраўднае прозьвішча Гаруна—Прушынскі) быў чыста беларускі; мова чулася ў хаце толькі беларуская; рэдкія маскоўскія словы прынасіў бацька са службы, а польскія—маці з касьцёла (хоць бацькі былі граматныя і папольску і парускy).

# З Польскага Сойму.

На паседжаньні Сойму 24 ліпня разглядаліся далей папраўкі Сэнату да уставы аб дробных арэндатарах на Крэсах; большасьць паправак адкінута. Трэцяе чытаньне ўставы аб сацыяльным абясьпячэньні не закончана.

Бурлівыя спрэчкі выклікала сьпешная прапазыцыя P.P.S. у справе страляніны паліцыі ў бастуючых работнікаў у Лодзі, Чэнстахове і Бельску.

Пасол **Шчэркоўскі** (P.P.S.), апісываючы апошнія вынікі ў Лодзі, адзначыў цяжкае палажэньне работнікаў у Польшы, заработная плата якіх у чатыры разы меншая, як перад войной. Няўступчывасьць прамыслоўцаў і выклікала забастоўку. А якое становішча было ўраду да гэтай забастоўкі? (Голас: Кулі). Так, падалі кулі, палілася кроў, былі забітыя і раненыя, шмат пакалечана. А як паступіў урад? Урад выслаў войска ў абароне інтарэсаў капіталістаў. Урад Вітаса абяцаў палепшыць палажэньне работнікаў і змагацца з дарагоўляй, а заместа гэтага работнікаў прасьледуюць і страляюць у іх. Конституцыя гварантуе свабоду сабраньня, а на практыцы—кулі і штыкі. Вось як выглядае свабода! Гэтыя выпадкі будуць запісаны на чорнай старонцы ў падзеях работніцкага руху. Уся адказнасьць за гэтае падае на ўрад Вітаса і Хіены і на тыя палітычныя партыі, якія кулямі і штыкамі патрактавалі работніцкую клясу.

На трыбуне зьяўляецца міністар унутраных спраў **Кернік**, спатканы крыкамі і пратэстамі з боку лявіцы. Чуваць галасы: Крывавы міністар! Ганьба! Забойца! Кернік у адказ на прапазыцыю даводзіць, што ўрады проф. саюзаў утрацілі даверые работніцкіх масаў, што створаны былі фабрычныя камітэты, якія сіліліся апанаваць забастовачны рух, што камуністы імкнуліся прыдаць гэтаму руху палітычны характар...

На лявіцы паднімаюцца крыкі. Міністру не даюць гаварыць. Маршалак зачыняе паседжаньне. Пярэрва трывае паўгадзіны, ў часе якой ў салі паседжаньняў ідзе сварка паміж пасламі з правіцы і лявіцы. Сацыялісты пяюць „Чырвоны штандар“.

Пасьля пярэрвы Кернік ужо ў іншым тоне канчае сваю прамову, згаджаючыся на сьпешнасьць прапазыцыі.

Пасол **Круліkoўскі** (камун.) Далоў забойцу работнікаў! (Крыкі на правіцы).

**Маршалак** прызывае пас. Круліkoўскага да парадку.

Пас. **Гдык** (хадэк) сіліцца апраўдаць паліцыю і ўсю віну складае на работнікаў. Трэба азначыць, што хадэкі маюць сьмеласьць лічыць сябе прадстаўнікамі работнікаў і ў часе забастовак намаўлялі сваіх прыхільнікаў разьбіць салідарнасьць работнікаў і сарваць забастоўку.

Сьпешнасьць прапазыцыі прынімаецца аднагалосна і прапазыцыя адсылаецца ў адміністрацыйную камісію.

---

На паседжаньні 25 ліпня прынята ў трэцім чытаньні ўстава аб сацыяльным абясьпячэньні.

Прынята ўстава аб компэтэнцыі міністэрства зямельнай рэформы. Высілкі Хіены і пястоўцаў былі скіраваны, каб павялічыць правы бюрократычных установаў і зьменшыць уплывы зямельных камісій, прадстаўляючых у пэўнай меры інтарэсы грамадзянства. Усе папраўкі адкінуты, выключаючы толькі адной аб складзе акружнай зямельнай камісіі, якая будзе складацца з трох прадстаўнікоў малазямельных, двух—беззямельных і аднаго абшарніка.

Дыскусія над уставай аб пэнсыях для ўрадоўцаў не закончана.

Далей разглядалася сьпешнасьць прапазыцыі клюбаў лявіцы, каб міністар заграпічных спраў даў выясьненьні ў справе заграпічнай палітыкі, якая па думцы гэных клюбаў азначаецца няўдачамі Польшчы. Міністар Сэйда запэўняў, што ўсё йдзе дужа добра і абяцаўся даць падрабязныя выясьненьні ў камісіі заграпічных спраў.

Прынята ўстава аб асыгнаваньні ў суме 20 мільёнаў для зямельнай запамогі ў 1923 г. Вызваленцы дамагаліся аб павышэньні гэтай сумы да 100 мільярдаў. Пас. Васыльчук (укр.) дамагаўся аб асыгнаваньні 200 мільярдаў для дапамогі сялянам на беларускіх і ўкраінскіх абшарах, зруйнаваных у часе вайны, дзе пануе нэндза і тыфус. Пэ-пэ-эс Уземблo падтрымлівае прапазыцыю вызваленцаў. Усе папраўкі адкінуты галасамі Хіены і Пяста.

---

Клюб P.P.S. унесьлі ў Сойм інтэрпэляцыю ў справе пагвалчэньня праз адміністрацыю конституцыйных свабод на крэсах усходніх.

---

# З УСЯЕ БЕЛАРУСІ.

## З Віленскага Жыцьця.

**Канфіскаты.** Камісар ураду 26-та ліпня арыштаваў № 17 „Нашага Сьцягу“ за артыкул „Трэба склікаць Усебеларускі зьезд Заходняй Беларусі“. Рэдактар пацягнуты да судовай адказнасьці.

У той-жа дзень быў арыштаваны № 29 тыднёвіка „Ziemia Ojczysta“ за артыкул „Wet za Wet“.

**Арышты сьведкаў.** Гр. Жарскі і Сохацкі, якія вызваны былі судом з Варшавы як сьведкі на працэс камуністаў у Вільні, па загаду прокурора былі арыштаваны, калі выхадзілі з памешканьня Суда.

24-га ліпня ў міравога судзьзі разглядалася справа рэдактара эндэцкай газэты „Dziennika Wileńskiego“, абвінавачанага старшынёй Грамадзянскага Сабраньня гр. Валэйшам у злой брахні, надрукованай у гэтай газэце. Міравы судзьдзя прапанаваў памірыцца, але гр. Валэйша адмовіў і справа перашла на разгляд Акружному Суду.

**Справа камуністаў адложана.** З прычыны неяўкі некалькі сьведкаў па справе камуністаў Суд пастанавіў адлажыць разгляд справы, а незьявіўшагася сьвёдку Кантара арыштаваць.

**Латыскае Консульства ў Вільні.** У хуткім часе, як паведамляюць газэты, у Вільне мае адчыніцца Бюро Латыскага Консульства, якое скароціць клопаты жыхарам Віленшчыны па атрыманьні візаў у Латвію.

**Папраўка.** З прычыны карэктарскага недагляду ў артыкуле „Трэба склікаць Усебеларускі Зьезд Заходняй Беларусі“ (№ 17 „Н. С.“) аказалася абмылка: замест: „Нацыянальны Камітэт фактычна і фармальна ня істнуе“, трэба чытаць: „Нацыянальны Камітэт фактычна ня істнуе“.

---

# З Менску.

### Вытворчая дзейнасць.

У працы сельска-гаспадарчых таварыстваў апошні час заўважаны ўхіл у вытворчы бок. Таварыствы з чыста гандлёвымі функцыямі альбо зьліваюцца са спажывецкімі таварыствамі альбо зусім распадаюцца. У даны момант з 102 таварыстваў 74 ужо маюць свае прадпрыемствы.

### Збытавыя апэрацыі.

Белсельпрамсаюз зьвярнуў галоўную ўвагу на арганізацыю збытавых апэрацыяў. Каўбасныя майстэрні, які маюцца у распараджэньні Белсельпрамсаюзу, мэханізуюцца.

Павялічваецца збыт малочных прадуктаў.

### П'еса „Чырвоныя арлы“.

Беларускае Т-ва Прыхільнікаў Авіацыі атрымала п'есу чырвонага ваеннага лётчыка Адамовіча—„Чырвоныя арлы“. П'еса вылажана досыць папулярна і вельмі надаецца да пашырэньня ідэяў авіацыі. Т-ва перадало п'есу для перакладу на беларускую мову і дапасаваньня да мяйсцовых умоваў пісьменьніку М. Кудзельку.

---

# Весткі з вёскі.

### Як выкідаюць парабкоў з двара.

У двары Зябкі, Дзісьненскага павету служылі ў працягу 10 гадоў беднякі Рачкоўскія—муж і жонка. Бацька гэтай Рачкоўскай увесь свой век „адрабляў паншчыну“ на пана Дубашынскага у гэным-жа двары. У апошнія гады перад сусьветнай вайной двор гэты быў куплены расейцам Чурым, ну, а цяпер, вядома, селі тут польскія вайсковыя асаднікі. Гэтыя новыя гаспадары выкінулі 1 красавіка г. г. бедную кабету Рачкоўскую з яе ранейшай у двары хаціны і няшчасная гэная кабета, пры тым-жа хворая, у працягу трох тыдняў днявала і начавала пад плотам. Урэшці, страціўшы надзею на літасьць новых уладароў, Рачкоўская па радзе людзей падала ў суд, у Лужкі, просячы, каб ёй, старой дазволена было дажыць свае апошнія гады, як беззямельнай і бяздомнай, у тым двары, дзе яна ў працы на паноў страціла свае сілы і здароўе. Ад групы калёністаў, асеўшых у двары Зябкі, заявіўся ня суд галоўны асаднік—паручнік Эдвард Драздовіч, які, мірачыся з Рачкоўскай, задэкляраваў перад судзьдзёй „заспакоіць“ кабету, паабяцаўшы даць ёй невялікі кавалак зямлі і кватэру. Але вось ужо канчаецца чацьверты месяц, а гэтая панская „абяцанка“ ніяк не спаўняецца (Ды і не споўніцца ніколі—дадатак наборшчыка). Цяпер гэтая Рачкоўская сядзіць кутам у вёсцы Задвор'е — гміны Празарокі. Як мы даведаліся, дык у нашым Дзісьненскім павеце шмат парабкоў і дробных арэндатараў апынуліся ў становішчы памянёнай вышэй Ганны Рачкоўскай. А хто ім дапаможа? Ды ніхто!

**Спачуваючы.**

**Гранічы**, Вялейскага павету.

Пан абшарнік двара Гранічы Вялейскага павету Оскар Сьвіда не здаець за грошы касіць свае сенажаці тым, якія галасавалі не за № 8. Быў нядаўна гэткі выпадак. Зьявіліся да гэнага пана сяляне, якія мала маюць сваіх сенажацяў, з просьбай прадаць ім частку яго вялікіх сенажацяў. „А за які № вы галасавалі пры выбарах у Сойм?“—„Мы-ж за грошы хочам наняць сенажаці; прычым тут №?“—„Ведаю, што вы галасавалі за шаснастку, дык няхай яна і даець вам сенажаці. Трэ' было галасаваць за № 8, дык я даў-бы вам касіць сёлета!“ адрэзаў пан.

Вось якія ў нас адносіны паміж дваром і вёскай!

Нейкі новы страх нападае тут на гэтага пана. Ен сёлета здаець касіць сенажаці свае не на капу, як гэта было раней, а толькі за грошы. Абсалютна ён ня хоча зьбіраць сабе сена, нават карыстаючыся дармовай працай малазямельных сялян. У гэтым страху ён зайшоў да таго, што на карані пачаў прадаваць сваё жыта. Нас, сялян, усё гэта ня мала дзівіць.

**Гранічанін.**

---

# Апавяшчэньне.

2-га жніўня адбудуцца мітынгі беларускіх паслоў ў Ілы і Гарадку. Паслы кс. Станкевіч і Мятла выступяць у Гарадку, а паслы Рак-Міхайлоўскі і Аўсянік — у Ілы. 5-га жніўня ўсе памянёныя паслы зробяць мітынг у Вялейцы.

---

# Судовыя справы.

### Працэс „Саюзу Пралетарыяту местау і вёсак“.

**Другі дзень (25. VII. 1923.)**

(*Гл. № 17*).

**Прэзэс** абвяшчае, што Суд пастанавіў да 3 гадзіны дапрасіць усіх сьведкаў абвінавачаньня і 10-х сьведкаў абароны. Часьць сьведкаў звальняецца Судом да 5 гадз. вечара.

Сьведка **Сянкевіч** паказвае, што быў на мітынгах перад выбарамі да Сойму й Сэнату ў залі Крэнгеля. Выступаў адзін паляк і адзін жыд, а таксама нейкая студэнтка. У абвінавачанай Браўдэ сьведка ня можа прызнаць на мітынгу асобу.

На запытаньне абароны сьведка сьцьвярджае, што абв. Грышун ня вёў ніякай палітычнай агітацыі ў будаўляных саюзах, да якіх сьведка належыць. Сьведка быў на паседжаньні Ц. Б. Проф. саюзаў, калі разглядалася справа злучэньня віленскіх саюзаў з варшаўскімі і ніякіх выступленьняў процi гэтага злучэньня там ня было.

Сьв. **Янушкевіч** паказвае, што абв. Грышун раздаваў адозвы на другім мітынгу (8. X. 1922 г.) ў залі Крэнгеля. Адозвы заклікалі галасаваць за № 5. Абвінавачаны Лікша быў падчас мітынгу на эстрадзе ў залі, пасьля ўваходу паліцыі разам з іншымі ўцякаў. Арганізатарам мітынгу быў Дмоўскі. Агалашаецца паказаньне сьведкі ў сьледаваццеля, дзе ён называў, як арганізатараў мітынгу, Лікшу, Дмоўскага і Грышуна.

Сьв. Мар'я **Сабалеўская** (работніца) заяўляе, што яна кабета хворая (рашуча падходзіць да самага стала і падае Прэзэсу дакторскае пасьведчаньне), ня помніць цяпер, што гаварыла ў сьледаваццеля. Раздаваньня адозваў на мітынгу ў залі Крэнгеля ня бачыла. На першым мітынгу выступала Браўдэ. Гаварылі на мітынгу, каб галасаваць за № 5. Як пачаліся арышты, дык на фабрыцы „Крышталь“ была гутарка, каб подпісы на выбарчым сьпіску ўзяць назад.

На пытаньне Пракурора адказвае, што цяпер ня помніць, аб чым на мітынгу гаварыла Браўдэ. Сьпіску № 5 ня лічыць камуністычным, гэта сьпісак работніцкі, дзеля чаго ўсе рабочыя да яго гарнуліся.

Па прапазыцыі Пракурора агалашаецца паказаньне Сабалеўскай у сьледаваццеля.

Некаторым месцам гэтага паказаньня сьведка цяпер заперачае, напр., што адозваў ад абв. Аўсея Эпштэйна, яна ніякіх не адтрымлівала, а ўзяла іх са стала сэкрэтара проф. саюзу Шымшона.

Сьв. **Шаткоўскі** дапрашваецца пры зачыненых дзьвярох.

Пасьля дапросу гэтага сьведкі была пярэрва да 5 гадз. вечара.

На вячэрнім паседжаньні пачынаецца дапрос сьведкаў абароны, сярод якіх фігуруюць лідэры тутэйшых пэ-пэ-эсаў, інжынеры Годвод і Заштаўт. Першы з іх зьяўляецца Прэзэсам Цэнтральнага Бюра Профэсыянальных Саюзаў м. Вільні, другі Камісарам тутэйшае Касы Хворых. Абодва сьведкі вельмі добра ведаюць абвінавачаных і нічым благім іх не характарызуюць.

Рэч у тым, што пасьля абвяшчэньня выбараў да Рады Касы Хворых увосень 1922 г. складала сьпісак нейкая „група марксістаў“, да якой мелі дачыненьне абвінавачаныя.

Сьв. **Годвод** на пытаньне Абаронцы адказвае, што марксісты пры выбарах у Ц. Бюро Проф. Саюзаў, як асобная група не маглі выступаць, бо Проф. Саюзы палітыкай не займаюцца, зьяўляюцца беспартыйнымі і выбары ў Ц. Б. адбываюцца саўсім не па партыйных прызнаках. Пракурор, дапрашываючы сьведку стараецца выясьніць тактычныя розьніцы соцыялістаў, бо ведама, што адны з іх згаджаюцца працаваць на грунце парлямэнтарызму, а іншыя, як напр., камуністы ідуць іншаю дарогаю. Сьведка констатуе, што і камуністы бяруць цяпер удзел ува ўсіх выбарах да парлямэнтаў Эўропы, а таму, як здаецца сьведцы, і яны сталі на грунт парлямэнтарнае тактыкі.

Процi пытаньня Пракурора, ці сьведка, калі-б ён быў суджаны, мог-бы зрачыся сваіх перакананьняў, пратэстуе Абаронца, констатуючы, што падобныя пытаньні забараняюцца правам, як паніжаючыя сьведку з боку моралі, з боку веры да яго.

Пракурор адмаўляецца ад свайго пытаньня.

Сьв. Аляксандар **Заштаўт** заяўляе, што знае добра старшага Эпштэйна, імя якога здаецца — Аўсей.

Пры гутарцы ў паседжаньні Цэнтр. Бюра аб злучэньні тутэйшых проф. саюзаў і варшаўскімі абв. Эпштэйн вельмі падтрымліваў гэтае злучэньне і, здаецца, быў навет адным з ініцыятараў гэтага злучэньня. На пытаньні аб тактыцы сацыялістаў, сьведка заяўляе, што ўсе сацыялісты прызнаюць дыктатуру большасьці над меншасьцяй. Абаронца адв. Врублеўскі, дапрашываючы сьведку, выказвае нязвычайна моцную знаёмасьць з сацыялістычным рухам наагул, што да групы т. зван. „марксістаў“, дык сьведка Заштаўт кажа, што аб ёй хадзілі чуткі ў Саюзах, але, здаецца, што ў групе гэтай сябрамі зьяўляюцца не пэпэасы. Абвін. Грышуна сьведка знае па Цэнтр. Бюры, які кінуўшы сваю прафэсію шаўца падчас безрабоцьця са ўсей ахвярнасьцю і стараньнем заняўся кухнямі для безработных і так быў гэтым заняты, што ніякай агітацыі вясьці ня мог. Як сьведцы здаецца, дык абвінавачаны Грышун саўсім ня мае здольнасьцяў да ролі агітатара. Сьведка ня чуў, каб які-нібудзь саюз у Вільні апанавалі камуністы, яны вельмі слабыя, вядуць сваю работу хіба-што канспірацыйна і пэпэасы ніякіх практычных зносін з імі ня маюць. Пры падгатоўцы выбараў у Касу Хворых сьведка, як назначаны ўладамі Камісар, саўсім не хацеў мяшацца ў гэту работу, злажыў яе на асобны Камітэт і ці паступаў у гэты камітэт які-небудзь сьпісак ад групы марксістаў, сьведка ня ведае.

Сьв. Рэвэка **Эпштэйн.** Аўсей Эпштэйн заўсёды выступаў за злучэньне віленскіх саюзаў з варшаўскімі. Па перакананьнях сьведка — соцыяль-дэмакратка.

Сьв. Хаім **Вальд** быўшы сябар Ц. Б. Проф. Саюз. падцьвярджае тое самае, што Аўсей Эпштэйн быў старонькам злучэньня саюзаў.

Сьв. **Штуфайціс**. Абв. Аўсей Эпштэйн быў сябром Управы саюзу гарэлачнікаў. Аб палітычнай агітацыі Эпштэйна сьведка ніколі ня чуў.

Сьв. **Гольдшмідт**, сябар заюзу гарэлачнікаў, ці быў Эпштэйн сябром Управы гэтага саюзу — ня ведае. Быў Эпштэйн пасрэднікам пры зносінах рабочых з працацаўцаю. Што ён рабіў падчас забастоўкі ў бровары — ня ведае.

Сьв. **Мілер** быўшы Прэзэс саюзу гарэлачнікаў. Эпштэйн быў віцэ-прэзэсам саюзу. Ніякай палітычнай агітацыі ён ня вёў. Ніякія рабочыя да Управы Саюзу не зьяўляліся з заявай аб падпісаньні выбарнага сьпіску, быццам аказаўшэгася камуністычным. Абв. Браўдэ нейкі час спаўняла ў нас функцыі сэкрэтара. Перад сьведкаю прэзэсам быў Бартніцкі. Сэкрэтар выбіраецца Управаю Саюзу, а не агульным сходам.

Сьв. **Бартніцкі** паказвае, што на пасаду Сэкрэтара Мірыям Браўдэ была запрошана Управаю Саюзу гарэлачнікаў, як канцэлярыстка аднаго з бравароў.

**Абаронца** просіць далучыць да справы выпіску з явачнае кнігі, каб відаць было дзе пражывала Браўдэ.

Адтрымаўшы слова, абвінавачаная **Браўдэ**, паясьняе, што ў Вільню пераехала з Варшаўскага Унівэрсытэту, каб паступіць ў Віленскі Ун-т. У Варшаве праходзіла прыродазнаўства, а ў Вілен. Ун-це мэдыцыну. Каб зарабляць на жыцьцё ў Вільні, паступіла ў канцэлярыю гарэлачнага бровару „Стэльля“ і запісалася ў саюз гарэлачнікаў, дзе была тэхнічным сэкрэтаром, як асоба, найбольш знаўшая польскую мову.

На пытаньне Пракурора абв. Браўдэ адказвае, што ў Савецкай Расеі ніколі ня была, а парасейску можа гаварыць саўсім добра, бо ў расейскія часы скончыла ўрадовую гімназію ў Лодзі, будучы дачкою, меўшых невялічкую трыкотажную майстроўню, бацькоў, якіх наўрад ці можна назваць заможнымі. Заўсёды лічыла, што мусіць зарабляць на жыцьцё самастойна і ўжо з 4 клясы гімназіі, маючы гадоў 12, мела першую лекцыю.

Сьв. Ян **Сеўрук**, сябар саюзу пекароў, паказвае, што Лікша таксама, як пякар, належаў да гэтага саюзу. Пражывалі яны блізка адзін ад аднаго. Ніякай агітацыі з боку Лікшы сьведка не заўважыў.

Сьв. **Зарэмба** — пякар. З Лікшаю працаваў разам гадоў 30. Каб вёў Лікша палітычную агітацыю — не заўважыў.

Сьв. **Андраловіч**. На мітынгу ў Крэнгеля быў і быў арыштованы.

Перад мітынгам разам працаваў у пякарні з Лікшаю. Што такое палітыка — ня ведае.

Сьв. **Маркевіч**, быўшы сябар саюзу мэталістых. Вэнгроўскі быў там сябром Управы. Палітычнае працы з яго боку не заўважыў.

Сьв. **Наркевіч** Віктар. Чуў аб мітынгу ў залі Крэнгеля, на якім быў арыштованы Вэнгроўскі.

Сьв. **Навабрант**, сябар саюзу гарэлачнікаў. Эпштэйн і Браўдэ былі ў нашай Управе. Эпштэйн ніякіх сходаў, апрача агульных, ня зьбіраў і не агітаваў. Ніколі ня чуў агітацыі і з боку Браўдэ. На першым мітынгу ў Крэнгеля быў, на другім — не. Чуў прамову толькі першага аратара, аб якім на залі гаварылі, што ён з Варшавы.

Сьв. **Навагрудзкі**, сябар Управы саюзу гарэлачнікаў. Аўсея Эпштэйна і Браўдэ знае. Ніякіх палітычных сходаў яны не рабілі і адозваў не распаўсюджвалі.

Сьв. Рахіль **Рацкэр**, сяброўка саюзу гарэл., паказвае тое самае.

(*Канец будзе*).

# Допісы.

## Беларусы у Амэрыцы.

### Саут Амбой, Нью Джорзі.

(Ад уласнага карэспандэнта)

Беларусы, якія тут ужо даўна жывуць ўперад належалі да расейскіх ці польскіх арганізацый, цяпер пераканаліся ў патрэбнасьці стварэньня сваей нацыянальнай арганізацыі, якая аб'яднала-бы ўсіх беларусаў і дапамагла-бы беларускім установам на Бацькаўшчыне ў барацьбе за лепшую долю нашага Сялянскага Народу. Нашыя нерабочыя сьвядома, з пункту гледжаньня сваей клясы, падходзяць да нацыянальнага пытаньня. Мы перасталі бадзяцца па задворках чужых нацый і цьвёрда парашылі будуваць сваго культуру сваімі рукамі. Гурток наш пакуль-што нявялічкі, але ўжо маемо 30 сяброў, якія гатовы жыцьцё аддаць за Вызваленьне Беларусі. Шлём нашае братэрскае прывітаньне усім тым, хто ідзе нашым Шляхам там, на Беларусі.

**Алесь Кульчыцкі.**

## Пісьмо у Рэдакцыю.

У нумары 17 „Нашага Сьцягу“, ў рэдакцыйнай стацьці „Трэба склікаць Усебеларускі Зьезд Заходняй Беларусі“ Рэдакцыя гаворыць, што „Цантральная Народная Рада, заснованая на зьезьдзе, скліканым Выбарным Камітэтам, аказалася мёртвароджанай. Саставіўшы для сябе статут, які перадала паслом для легалізацыі, Рада супачыла на гэтым... Статут аказаўся яе тэстамэнтам“.

Гэтыя словы асьвятляюць справу Рады аднабока і зусім ня правільна. Справа ў тым, што, згодна з воляю выбраўшага яе зьезду, Рада павінна была разьвіць арганізацыйную сець па вёсках, апіраючыся на выбарных камітэтах, але толькі пастольку, паскольк будзе залегалізована ўладаю. Арганізатары Рады разумелі, што толькі легальная арганізацыя здолее выпаўніць пастаўленую ёй зьездам задачу; наадварот, тварэньне аддзелаў Рады на мясцох нелегальна можа даць вынікі зусім непажаданыя для тых, хто-бы ўвайшоў у іх склад... Калі-ж урад пана Сікорскага катэгорычна адмовіўся дапусьціць дзейнасьць Рады і легалізаваць яе, Рада не „супачыла“, як кажа Рэдакцыя, а была прымушана спыніць сваю работу, каб не праваціраваць грамадзянства, заклікаючы да арганізацыі, учасьце ў якой, як у нелегальнай, вызвала-бы перасьледаваньне з боку ўлады, ня гледзячы на зусім легальныя мэты арганізацыі.

Такім парадкам, Рада не „супачыла“, а была пастаўлена ўладай у стан супачынку.

Як выбраны вышэй сказаным зьездам за старшыню Цантральнае Народнае Рады, гэтым прашу надрукаваць маё пісьмо, каторае выясьняе праўдзівае палажэньне Рады і адкідае зроблены ёй закід злой волі.

Вільня, 27. VII. 1922 г. **А. Луцкевіч.**

**Ад Рэдакцыі.** У цытаце, зробленай з нашай газэты, пав. аўтар пісьма няслушна бача закід злой волі—мы ня знаючы прычын, сьцьвярдзілі факт бяздзейнасьці Народнай Рады. Нас толькі моцна дзівіць, чаму да гэтага часу Народная Рада не апавясьціла праз прэсу сваіх выбаршчыкаў і наагул беларускае грамадзянства аб так важным выпадку, як адказ улады легалізаваць статут Рады.

## Як хадзіць каля каня.

Раніцай каня трэба карміць сенам; тую частку, якая прызначана на дзень, не закідываць адразу, а падзязіць яе на 4-5 частак і даваць у азначаныя часы дню; апошнюю частку пакінуць на нач. Пасьля вадапою, праз $^1/_2$ гадзіны даваць авёс; даваць адразу больш, чым гарнец, ня варта. Днём і вечарам гэты-ж самы парадак: сена, вада, авёс. Пасьля працы можна паіць не раней, як праз 2-3 гадзіны; даваць авёс не раней, як праз 2 гадзіны (інакш — апой, раматус, запаленьне капытаў). Са спацеўшага каня ня здымаюць адразу хамут, сядло або сядзёлка; лепш $_1/^2$ гадзіны павадзіць яго. Чысьціць каня шчоткай кожны дзень і ні ў якім разе ня менш 2 разоў на тыдзень. Капыты абчышчаць ад балота вадой і правяраць коўку. Адсажваць сасуноў ад маткі на 6-ым месяцы. Авёс даваць адсаджаным жарабяткам у першыя 3-4 дні па $^1/_4$ гар. у суткі, закрываючы яго сенам; вада павінна быць чыстая, ня надта халодная і даецца ў першыя 6-8 дзён большай часткай ў памешканьні.

### Ахвяры на прэсовы фонд.

Ад сялян Ляхавіцкай гміны, Несьвіскага пав. — 117.000 мар.

## Курс на грошы.

**Варшава 27 ліпеня.**

(Офіцыяльна).

| | |
|---|---|
| Даляры | 147.000 |
| Бэльгійскія франкі | — |
| Нямецкая марка | 16,5 |
| Франкі | 8.100 |
| 10 руб. золатам | 985.000 |

## Сэкрэтарыяты Беларускага Пасольскага Клюбу.

1) **Вільня**, Віленская вул. 12, кв. 6.
2) **Ліда**, I I Слабодка 8.
3) **м. Глыбокае**, Дзісьненскага пав. вул. Сенкевіча 46.
4) **Жодзішкі**, Сьвянцянскага павету кс. Годлеўскі.
5) **Навградак**, Вялікі Рынак 14.
6) **Нясьвіж**, Альбянская 28.
7) **Столбцы**, Шпітальная 22.
8) **Горадня**, Мастовая 9.
9) **Бельск**, Замкавая вул. 3, кв. 1
10) **м. Саколка**, Горадзенская вул. 34.
11) **м. Кляшчэлі**, Бельскага павету.
12) **м. Крынкі**, Горадзен. павету, Горадзенская вул. 34.
13) **Пружаны**, Вуліца кс. Буткевіча, 16.
14) **Беласток**, Нова-Варшауская вул. № 83.

**Беларускі Пасольскі Клюб**, Варшава, Вейская вул. Сойм.

## Паведамленьне.

Гэтым даводзім да ведама ўсім нашым падпішчыкам, што з 1-га жніўня г. г. у газэце „Наш Сьцяг“ адкрываецца аддзел „Юрыдычных парад“.

Розныя запытаньні з апісаньнем справы просім прысылаць на адрас Рэдакцыі (Wilno, Wileńska 12—6). Адказы і парады будуць друкавацца ў газэце дарма.

**Рэдакцыя.**

## Да нашых падпішчыкаў і чытачоў.

„**Наш Сьцяг**“ адзіная ў Заходняй Беларусі беларуская газэта, якая стаіць у абароне інтарэсаў працоўнага сялянства і рабочых.

Кожны, хто жадае эканамічнага дабрабыту для сваей Бацькаўшчыны, каму дорага справа яе адраджэньня, хто шануе матчыну мову павінен чытаць „**Наш Сьцяг**“, распаўсюджываць, выпісываць і дапамагаць, хто чым можа.

Сучасная ўсё ўзрастаючая дарагоўля стварае цяжкія варункі для выданьня газэты. Ад грашовага падтрыманьня праз беларускае грамадзянства залежыць рэгулярны выхад нашай часопісі.

Усе, дзеля сваей карысьці, падпісывайцеся на „**Наш Сьцяг**“—усе гуртуйцеся пад наш сьцяг!

Рэгулярна ўнасіце падпіску і даплаты.

Асабліва заклікаем амэрыканскіх беларусаў і надалей надзеляць сваей дапамогай, каб не ўпаў **наш сьцяг** на беспатольнай Бацькаўшчыне.

**Рэдакцыя і адміністрацыя.**



Рэдактар-выдавец Я. Лагіновіч. Друкарня Левін і Сын, Нямецкая 22.